© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



ГРАМАДЗТВА

# ЗАСТАЦЦА ЛЮДЗЬМІ

**"...Яны не ўцямлялі, што разам з беларушчынай мы трацім і лепшую частку чалавечнасьці..." - пісаў у 1921 годзе ў сваёй кнізе "Адвечным шляхам" Ігнат Абдзіраловіч, характарызуючы палітыку расейскіх уладаў у дачыненьні да беларусаў. Ці ўцямляе гэта сучасная - БЕЛАРУСКАЯ -улада? Ці ўцямляе гэта дэмакратычны Захад, для большасьці палітыкаў якога нацыянальнае Адраджэньне здаецца небясьпечнай праявай сепаратызму?Сем гадоў існаваньня Новай Эўропы (за кропку адліку ўзяты 1989 год, калі пачаўся імклівы развал камуністычнай сістэмы) пераконваюць, што не.**

Сапраўднай лакмусавай паперкай, якая выявіла сутнасьць і якасьць адбыўшыхся ў Сярэдняй Эўропе зьменаў стала нацыянальнае пытаньне. Праверку на разуменьне яго лёсавызначальнага значэньня прайшлі ўсе посткамуністычныя ўлады. Вытрымалі - адзінкі. Праілюструем гэта на прыкладах Югаславіі, Румыніі, Польшчы і Беларусі - краінаў з вельмі рознымі, на першы погляд, праблемамі ў міжнацыянальных зносінах.

Тое,што ў канцы XX стагоддзя ў цэнтры Эўропы, пазнаўшай дзьве сусьветныя вайны, ледзь не разгарэлася трэцяя сусьветная, для многіх у сьвеце выглядала зьявай парадаксальнай. З іншага боку, тое, што Захад урэшце рэшт вайну спыніў, зьяўлялася цалкам лагічным. Але варта толькі задаць сабе два пытаньні: калі і чаму - як першае становіцца лагічным, а другое - парадаксальным. Ад часу распаду Югаславіі на незалежныя дзяржавы да сараеўскай бойні прайшло нямала часу. Што рабіў з басьнійскай праблемай урад Мілошэвіча? Ён рабіў выгляд, што яе не існуе, што гэта спрадвечная югаслаўская (чытай, сербская) зямля, басьнійцы, як нацыя, не існуюць, гэта штучнае ўтварэньне ад вялікага сербскага народа. А таму ня варта рабіць з мухі слана. Цалкам салідарныя з гэтай думкай былі і заходнія палітыкі.

"Мы баяліся, *што пасьля басьнійскай* праблемы выбухне праблема, напрыклад, Каталоніі (гістарычная вобласьць у заходне-спакойнай Гішпаніі) - патлумачыў на адной канферэнцыі, дзе і мне пашчасьціла быць, галандзец Джордж Мускенс, які шмат гадоў займаўся ў аўтарытэтных эўрапейскіх арганізацыях стасункамі Усходу і Захаду. Сёньня з гэтых жа, думаецца, прычынаў на Захадзе закрылі вочы на бойню ў Чачні. Пры гэтым замацавалі за Расеяй шляхам прыняцьця яе ў Раду Эўропы ролю жандара ў вырашэньні нацыянальных канфліктаў на тэрыторыі былога Савецкага Саюзу.

Замест таго, каб спыніць у Босьніі вайну на самым пачатку, Захаду ўсё ж прыйшлося пасылаць на сьмерць сваіх салдатаў. Усё тое ж самае на Каўказе паўтарае Масква.

Ня так драматычна, як у Югаславіі, вырашаецца нацыянальнае пытаньне ў посткамуністычнай Румыніі. Там жыве каля двух мільёнаў венграў, спазнаўшых у часы Чаушэску страшны ўціск. Забаранялася ўжываць венгерскія назвы румынскіх гарадоў, на румынскі манер перарабляліся прозьвішчы.У школах і ВНУ панавала "вялікая і багатая румынская мова". Нават пад час прагноза надвор'я забаранялася казаць, напрыклад, што дождж ідзе ў Трансільваніі (гістарычная вобласьць у Румыніі, дзе жывуць венгры). Казалі - на паўднёвым захадзе. Нагадвае крыху "Северо-западный регион" у прагнозах надвор'я на расейскім тэлеканале, ці ня праўда?

Пасьля антыкамуністычных выступленьняў у Цімішоары ў 1989 годзе, калі адкрыта ў бой з дыктатурай уступілі і венгры, і румыны, многім дэмакратам у Румыніі здалося, што пачалося залатое стагоддзе, што ўсе праблемы камуністычных часоў засталіся ў мінулым. Працьверазеньне наступіла ў 1990 годзе, калі ў Тынгу-Мурэш пракамуністычныя сьпецслужбы справакавалі міжэтнічны канфлікт, у выніку якога загінулі тры румыны і тры венгры. Пакуль дэмакраты дыспутавалі, як такое магло здарыцца праз год пасьля Цімішоары, пра тое, як стрымаць прывіваную стагоддзямі этнічную нянавісьць, перафарбаваныя камуністы спакойна вярнуліся *да ўлады. Не забыўшыся, зразумела,* абвінаваціць апазіцыю ў няздольнасьці вырашаць нацыянальнае пытаньне.У выніку на паперы сёньня венгры маюць такія ж правы, як і румыны, а на справе ўсё засталося па-ранейшаму.

Адгалоскі вялікадзяржаўнай палітыкі ў дачыненьні нацыянальных меншасьцяў адчуваюцца сёньня і ў Польшчы. Так, тут не было адкрытага шалёнага ўціску па нацыянальных прыкметах, але, да прыкладу, мэтанакіравана зьнішчалася беларускае школьніцтва, ад праваслаўных вернікаў-беларусаў забіралі цэрквы і ператьваралі іх у касьцёлы, а дзеячы беларускіх грамадзкіх арганізацый ня раз мелі клопаты з польскімі сьпецслужбамі. Такая палітыка праводзілася і ў дачыненьні да іншых нацыянальнасцяў у Польшчы. Нядаўна мне давялося пабываць у мястэчку Сейны на самай польска-летувіскай мяжы. Мясцовыя ўлады там усімі сродкамі супраціўляюцца ўстаноўцы помніка каталіцкаму біскупу, слыннаму летувіскаму літаратару канца XIX стагоддзя Антанасу Баранаускасу. Такую пазіцыю займаюць і варшаўскія палітыкі. Кіраўнік польска-летувіскай міжпарламенцкай групы Адам Дабронскі заявіў нядаўна, што ўстанавіць помнік можна, але тады побач прыдзецца выставіць і некалькіх паліцыянтаў. Такая ж сітуацыя і з наданьнем адной з вуліц імя гэтага, бадай што, самага славутага ў гісторыі Сейнаў чалавека. Ulica Baranowskiego - можна -Ulica Baranauskasa - нельга, бо гучыць не па-польску. Ці варта пасьля такіх дзеяньняў улады зьдзіўляцца таму, што на сьценах і платах у мястэчку можна сустрэць надпісы: "Добры ліцьвін - мёртвы ліцьвін", а найвялікшай абразай у моладзі лічыцца зварот: "Ты - ліцьвіне!"

Сітуацыя на Беларусі на фоне Югаславіі, Румыніі і Польшчы выглядае для разумнага чалавека яшчэ больш дзікой і незразумелай. Ахвярай злачыннай палітыкі ў вырашэньні нацыянальнага пытаньня зьяўляецца этнічная большасьць.

Незалежнасьць звалілался на нас літаральна з неба ў той момант, калі носьбіты нацыянальнай ідэі былі амаль вынішчаныя, калі да мяжы, пасьля якой беларуская нацыя станавілася б савецкай, заставаўся крок. Мы не пралівалі за незалежнасьць кроў, як гэта было ў Югаславіі, у нас не было "ружовых" антыкамуністычных рэвалюцый, як у Польшчы і Румыніі. А таму вартасьць самастойнасьці зразумелі адзінкі. У сьвядомасьці большасьці людзей незалежнасьць азначала простую зьмену ўлады. Калі ж улада пачала расчароўваць (найперш у эканоміцы), то аўтаматычна *нездаволенасьць перанеслася на суверэнітэт.* І калі знайшліся людзі, якія заявілі, што ва ўсіх бедах вінаваты Віскулі, то большасьць узяла гэта на веру. Вынік вядомы: прэзідэнт Беларусі атрымлівае ўзнагароды за ўмацаваньне дзяржаўнасьці ў Расеі і нішчыць дзяржаўнасьць уласнай краіны. А паколькі носьбітамі дзяржаўнай ідэі зьяўляюцца найперш носьбіты ідэі нацыянальнай, то любая праява нацыянальнага адраджэньня на Беларусі трактуецца ўладамі як замах на існы ў краіне палітычны лад. Адсюль вытокі шалёнай антыбеларускай кампаніі ў незалежнай Беларускай дзяржаве, адсюль неверагодныя намаганьні ўладаў адтэрмінаваць беларускую "ружовую" рэвалюцыю.

Пры ўсёй розьніцы падыходаў да вырашэньня нацыянальнага пытаньня ў Югаславіі, Румыніі, Польшчы, Беларусі – ва ўсіх гэтых краінах у дзеяньнях уладаў выразна бачны тэндэнцыі пазьбяганьня канфліктаў, застаўшыхся ў спадчыну ад камуністаў. Зьнішчылі тыя нацыянальную школу ў Беларусі (маюцца на ўвазе і польскія, і летувіскія, і габрэйскія школы) – ну і няхай так будзе! Стрымліваньне і абмежаваньне нацыянальнага руху ўяўляецца посткамуністычным уладам лепшым выйсьцем, гарантам стабільнасьці ў грамадзтве. Аднак гэтае выйсьце часовае. Яно толькі акумулюе праблемы, выкрышталізоўвае і абвастрае іх. Гэта ўжо спазнаў югаслаўскі ўрад Мілошэвіча, які дачакаўся басьнійскай вайны. Гэта павінен мець на ўвазе і ўрад Лукашэнкі, які сёньня змагаецца з беларускасьцю беларусаў. Беларускасьць - гэта ня толькі мова, народны строй,бел-чырвона-белы сьцяг і "Пагоня". Гэта таксама характэрныя для беларусаў талерантнасьць, спагада, гасьцінасьць. Гэта тое, што дазваляе беларусам "людзьмі звацца" і быць людзьмі. Але ці можна доўга быць чалавекам пад амапаўскімі дубінкамі?

**ВІТАЎТ РУДНІК**




## КАМУНАРЫ НЯ БУДУЦЬ РАБАМІ!

АКБ "Прыорбанк" па Гарадзенскай вобласьці зьмяніў кіраўніцтва. Замест Ігара Карачанцава выконваючым абавязкі дырэктара прызначаны Міхаіл Шылін,былы першы сакратар камуністаў Ленінскага раёна Горадні.

## СЬЦЕРАЖОНАГА МІЛІЦЫЯНТ СЬЦЕРАЖЭ

**У будынку гарадзенскага аблвыканкама ўведзены ўзмоцнены рэжым аховы. Міліцыянты на ўваходзе не пускаюць наведвальнікаў высокай "вертыкальнай установы" без прад'яўленьня пашпарту або іншага пасьведчаньня асобы.**

Такога старажылы чыноўных калідораў ня памятаюць ад часоў рэвалюцыйнай эры, калі ў будынку побач з сёньняшнім аблвыканкамам нейкі час знаходзіўся "жалезны" Фелікс Дзяржынскі. Шэфу крывавай "чэкі" і няўдаламу стваральніку Польскай ССР было чаго баяцца. Гарадзенскія кіраўнікі пакуль што не вызначыліся ў справе пабудовы дыктатуры ў адной асобна ўзятай краіне, акрамя хіба што вывешваньня ў сваіх кабінетах партрэтаў на 80% "любімага" народам Прэзідэнта Беларусі.

У сьвеце падзеяў трохгадовай даўніны, калі быў забіты старшыня аблвыканкаму Дз. Арцыменя, перасьцярога выглядае не такой ужо дарэмнай, хаця і запозьненай. А можа, наадварот, своечасовай?

**С.С.**

## ПАРА ВЫПУСКАЦЬ ПІВА "МЕДАЛЁВАЕ"

Усе чатыры гатункі лідзкага піва, выстаўленыя на міжнародным конкурсе ў Сочы, атрымалі медалі. Лідзкае піва мела канкурэнцыю з боку 170 гатункаў фірмаў Усходняй і Заходняй Эўропы, а таксама СНД. На конкурс выстаўляліся сьветлыя гатункі "Лідзкае" і "Стары замак" ды цёмныя "Лідзкае юбілейнае" і "Чорны прынц". Першыя тры гатункі атрымалі сярэбраныя медалі, а "Чорны прынц" - бронзавы. Да "золата" не хапіла 0,1 і ў асноўным з-за вонкавага афармленьня.

Сёлета Лідзкі піўзавод будзе сьвяткаваць сваё 120-годдзе.

## ЁСЬЦЬ СТАБІЛІЗАЦЫЯ

Стабілізавалася сітуацыя на Навагрудзкай швейнай фабрыцы. Калектыў загружаны працай да канца года.Гэта - дзякуючы кантрактам з фірмамі ЗША і Англіі на пашыў мужчынскіх і жаночых штаноў, вайсковых строяў. Шыюць іх па лякалах з запазычанай тканіны. Зусім нядаўна фабрыка дазволіла сабе набыць 31 адзінку новага абсталяваньня зь Італіі. Гэта швейныя машынкі і прасы. Завезена 21 тысяча метраў тканіны для прадукцыі, якая пойдзе на ўнутраны рынак.

## САМ САБЕ ВЫТВОРЦА

Калгас "Праўда" Воранаўскага раёна набыў неабходнае абсталяваньне і прыступіў да вытворчасьці поліэтыленавай плёнкі. Сыравіна набываецца на Наваполацкім аб'яднаньні "Палімір". Плёнка скарыстоўваецца для ўласных патрэбаў і прадаецца суседзям. А штурхнула калгас на такі крок тое, што летась з-за адсутнасьці гэтай самай плёнкі згніло каля паловы падрыхтаванага сіласу.

**ЯРАСЛАЎ ГРЫНЬКЕВІЧ**

## ГАДАВІНА БЕЗ ДЗЯЖУРНЫХ АПТЭК

Ужо больш года ў Горадні і вобласьці не працуюць ноччу дзяжурныя аптэкі. Як патлумачылі "Пагоні" у прадпрыемстве "Фармацыя", адмена дзяжурстваў выклікана тым, што няма патрэбы трымаць уначы дзяжурнага, бо практычна ніхто не зьвяртаецца за пакупкамі. Раней па начах і зранку аптэкараў турбавалі алкашы, бяручы без рацэпта адну бутэлечку ("фуфырык") календулы ці валер'янкі. Цяпер са сьпіртным праблемаў няма.

Што тычыцца іншых патрэбаў, то па ўзаемнаму ўзгадненьню ўначы хворых забясьпечвае "Хуткая дапамога". Такія лекі, як асьпірын, лічаць у "Фармацыі", можна набыць у запас днём.

Беларусь - не Амерыка, дзе аптэкі працуюць кругласутачна. Няўжо там больш алкашоў?

**С.С.**

## У ПОЛЬШЧУ ЗА ТРУСКАЎКАМІ

Польскія СМІ паведамілі, што заходнія краіны не згадзіліся панізіць кошты на ягады. Гэта ўдарыць па польскіх экспарцёрах. Сёлета ў Польшчы чакаецца вялікі ўраджай на трускаўкі, якія ў большасьці традыцыйна прадаваліся на Захад. У вытворцаў хутчэй за ўсё ўзьнікнуць праблемы са збыцьцём свайго салодкага тавару. Ім, каб прадаць свой ураджай на польскім рынку, прыйдзецца зьніжаць кошты.

Застаўшыся без магчымасьці зарабіць, беларусы могуць выкарыстаць момант і пагандляваць у нас таннымі польскімі трускаўкамі. Беспрацоўным будаўнікам "рынкавага сацыялізму" трэба хутчэй ехаць у Польшчу, дамаўляцца аб закупках і думаць, як прывезьці ягады, мінуўшы мытнікаў.

**Д.КІСЕЛЬ**

## "РУКА МАСКВЫ" У СМАРГОНІ

**У Смаргоні некалькі дзён таму падатковая інсьпекцыя зрабіла "наезд" на прадпрымальнікаў. Ім прапанавана ўнесьці ў мясцовы бюджэт па 4 мільёны рублёў у якасьці падаходнага падатку незалежнага ад наяўнасьці даходаў. Яны папярэджаны, што калі не ўнясуць, то ім будзе кепска. На якім жа кручку знаходзяцца прадпрымальнікі?**

Справа ў тым, што вельмі многія з іх закупляюць тавары ў Маскве. Па зьвестках жа падатковай інсьпекцыі "першапрастольную" апанавалі крымінальныя структуры ў выглядзе падпольных прадпрыемстваў. Пры праверцы дэкларацый аб даходах прадпрымальнікаў, якія закупляюць тавары ў Маскве, туды дасылаюцца запыты аб пацьверджаньні існаваньня прадаўцоў. Адтуль жа заўсёды паведамляюць, што фірма, адносна якой зроблены запыт, не існуе. Адказнасьць і іншыя адмоўныя наступствы кладуцца, як гэта заўсёды бывае ў дачыненьні з Расеяй, на беларускі бок.

Вядома, што ліст у Маскву можа дасылацца, а можа і не дасылацца. Права выбару і выкарыстоўваецца падатковай інсьпекцыяй у працы з прадпрымальнікамі ў выпадках, калі ад структураў галоўнага запушчальніка заводаў прыходзяць патрабаваньні аб папаўненьні любімага шляхамі бюджэту, бо заводы заводзяцца ня хочуць. І калі жывіцца заводы цяжка, то "спусьціць" штаны з прадпрымальнікаў, відаць, лягчэй.

Па ўсім відаць, прадпрымальнікі дзяржаўным рэкетам даведзены да адчаю. Калі раней патрабаваньні сумы з дапамогай "рукі Масквы" пералічвалі бездакорна, то на гэты раз плюнулі яны на тую "руку" і пачалі збор подпісаў пад зваротам аб спыненьні пабораў. Падпісалася звыш 50 чалавек.

**А.ДЗЕРГАЧОЎ**

## ХВОРЫХ НАВАБРАНЦАЎ УСЁ БОЛЕЙ

Пад час апошняга набору ў Баранавічах выяўлена 287 хворых. Летась было 185. Пры гэтым 62 працэнты ніколі раней па медыцынскую дапамогу не зьвярталіся.

**Вацлаў Сярпінскі**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013









**(Працяг. Пачатак у N 24)**

**ІМПЕРЫЯ**

Хацелася б яшчэ раз папярэдзіць ад ілюзіяў. Расея, прынамсі ў бліжэйшы час, ня будзе дэмакратычнай краінай, бо па сваёй структуры, традыцыях улады, грамадзкіх стэрэатыпах, гісторыі, тыпу культуры, ментальнасьці людзей - гэта тыповая імперыя з крымінальнай псіхалогіяй і агрэсіўнай палітыкай. Імперыя і дэмакратыя несумяшчальныя, бо імперыя прадугледжвае не дэмакратычную, а імперскую сьвядомасьць.Імперская сьвядомасьць накіравана на экстэнсіўнае разьвіцьцё. Яна адваротная вектару нацыянальнай сьвядомасьці, імкнецца не да адмежаваньня ад непадобнага, чужога (як нармальны этнас, нацыя), а да паглынаньня яго. Таму вобраз суседа (характэрны для этнаса, нацыі) зьмяняецца вобразам ворага, цярпімасьць - ксенафобіяй, узаемадзеяньне - агрэсіяй (захопам, уплывам, падпарадкаваньнем, разбурэньнем і г.д.).



Імперская супольнасьць імкнецца жыць не за кошт іманентнага, творчага разьвіцьця сваіх унутраных этнічных, нацыянальных рэсурсаў (гэта і немагчыма, бо імперыя заўсёды шматковая), а за кошт экстэнсіўнага выкарыстаньня іншых этнічных супольнасьцяў, паглынаньня іх. У аснове такіх паводзінаў ляжыць тыповая чынгісханаўшчына, псіхалогія азіяцкіх вандроўнікаў - ісьці да апошняга мора, памножаная на комплекс непаўнавартасьці, выхаваны ў няволі і пераўтвораны ў агрэсіўнасьць.

Імперыі існавалі спрадвеку. Яны папулярна акрэсьленыя ў літаратуры, як зло. Але дзіўна,што гэты грамадзкі феномен вывучаны найменш. З усіх бакоў разглежданы этнасы і іх арганізацыі - род, племя, народ, нацыя. Супольнасьць "імперыя", як зьява няўстойлівая, амаль не вывучана, хаця выяўлена шмат агульных заканамернасьцяў імперыяў, асабліва пры іх распадзе.

Доўгатрывалыя імперыі, як правіла, часта дазваньня разбураюць свае этнасы. Пасьля распаду імперыі застаецца мёртвая імперская мова, бо этнічны носьбіт яе нежыцьцяздольны альбо ўжо зьнік, (класічныя прыклады - распад Рымскай і Асманскай імперыяў), а таксама шэраг раней прыгнечаных народаў, якія ўтвараюць свае нацыянальныя дзяржавы.Дапускаю, што ў Расеі яшчэ няма ніводнага чалавека, які б усьведамляў, што руская мова ў перспектыве можа стаць мёртвай мовай, а рускія як этнас могуць канчаткова зьнікнуць з твару зямлі. Зьнікненьне закладзена ў імперскай арганізацыі грамадзтва і яго сьвядомасьці.

Зрэшты, гэта толькі верагоднасьць, але зразумела, што выратаваць рускую народнасьць ад катаклізму мог бы распад Расеі, калі б там былі людзі, якія б думалі нацыянальна, а не па-імперску. На жаль, гэта не назіраецца, за выключэньнем хіба асобных дзеячоў, якіх ніхто ня слухае і ня хоча чуць.

Аб дэмакратыі ў Расеі можна гаварыць вельмі ўмоўна. Імперская хваля затапіла ўсё. Тыя людзі ў Расеі, што яшчэ 4-5 гадоў таму назад называлі сябе дэмакратамі, цяпер практыкуюцца ў махровай імперскай фразеалогіі. Жахлівая расейска-чачэнская вайна, разьвязаная мафіёзна-палітыканскай Масквой, паказала ўвесь антыдэмакратызм і амаральнасьць імперскага грамадзтва. Цяпер, праўда, пачынаецца ацьверазеньне, зьбіраюцца нават подпісы супраць вайны. Але вось новае выпрабаваньне, новая авантура - мірны захоп Беларусі. І як тады, напачатку чачэнскай авантуры, цяпер зноў не знаходзіцца там ніводнага разумнага чалавека, які б задумаўся сярод гэтага імперскага чаду і сказаў бы: спыніцеся, ня лезьце на Беларусь. Не разумеюць. Лезуць.

Маючы такога небясьпечнага суседа, як Расея, мы ня можам ня ведаць яго, не вывучаць, не задумвацца над праблемай узаемадачыненьняў з Усходам. Я ўжо пісаў раней, што сутнасьць эўрапейскай культуры выяўляецца ў дачыненьнях да чалавека як асобы першаснай перад дзяржавай. У нармальных, мірных умовах правы чалавека вышэй за ўсё. Улада і закон забясьпечваюць гарантыі гэтых правоў. Там, дзе ў сьвядомасьці грамадзтва канчаюцца чалавечыя правы і іх прыярытэты, там, дзе зьнікае індывідуальная псіхалогія, канчаецца і Эўропа. А менавіта за *Дняпром, за этнічнымі межамі Беларусі і Украіны.*

намеры анэксіі Беларусі, як і раней ужывае яшчэ выдумкі накшталт гістарычнага адзінства беларускага і рускага народаў", "гістарычнай дружбы" (чаго ніколі не было) і іншыя выразы, разьлічаныя на адсталых. Аднак маладая Беларусь адраджаецца і добра ведае, што наша гісторыя дачыненьняў з Расеяй - гэта гісторыя амаль беспярыпыннай вайны. Беларусь і Расея выступалі стагоддзямі як натуральныя ворагі. (Пры тым Расея ня раз праводзіла генацыд беларусаў у час захопу нашых тэрыторыяў). Калі ж наша краіна ў канцы ХVIII ст. разам з Польшчай пала пад націскам трох імперыяў, то *потым кожнае пакаленьне паўставала супраць* акупантаў. Пяць разоў за стагоддзе. Шостае

свабоду іншага чалавека, каб забясьпечыць яго правы і гарантаваць выкананьне законаў.

Павага да правоў чалавека, замацаваная ў традыцыях і законе, нам неабходна таму, што мы спрадвеку лічым чалавека найвялікшай каштоўнасьцю ў жыцьці і засьведчылі гэта ў сваёй культуры і гісторыі. Калі правa чалавека паважаецца, тады яму добра.

Рынкавыя дачыненьні нам патрэбны таму, што Беларусь - гэта краіна з эканомікай адкрытага тыпу (мы ня маем лішніх энергетычных рэсурсаў). Таму мы павінны, абавязаны вырабляць добрыя тавары і *гандляваць. Свабодных людзей без уласнасьці* не бывае. Таму беларускі грамадзянін павінен мець права на прыватную ўласнасьць, валодаць і распараджацца ёй. Уласнасьць павінна памнажацца, чалавек з сваёй працы багацець. Найлепшы спосаб арганізацыі працы ў ажыцьцяўленьні гэтага, як даказалі вопыт і практыка, - рынкавая эканоміка. Таму мы за рынкавую эканоміку, у якой чалавек мае ўмовы і гарантыі сацыяльнай абароненасьці. Вось чаму Беларускі Народны Фронт, гаворачы пра рынкавую эканоміку і дбаючы пра сацыяльную абарону чалавека, вялікую ўвагу зьвяртае на традыцыйную мараль, каштоўнасьці хрысьціянскай рэлігіі і здаровую сям'ю – аснову грамадзтва.

Нацыянальна-культурнае адраджэньне беларусам неабходнае, каб самарэалізавацца як грамадзтва культурных асобаў, здольных усьведамляць свае калектыўныя (нацыянальныя) задачы, дзеяньні і планаваць паводзіны; каб рэалізавацца як грамадзтва асобаў,здольных убачыць узаемазалежнасьць сваіх асабістых і нацыянальных інтарэсаў і падтрымліваць, абараняць іх праз салідарнасьць і самаарганізацыю. Гэта і ёсьць нацыя - супольнасьць культурных нацыянальна-сьвядомых асобаў.

Калі ж нацыянальнага ўсьведамленьня няма альбо калі яно прымітыўнае, культурна не разьвітае, не абапертае глыбока на традыцыі і нацыянальную культуру (сітуацыя характэрная для многіх беларусаў), тады грамадзтва ня ў стане сьвядома кіраваць сваімі паводзінамі і робіцца падобным на натоўп, які можна загнаць куды хочаш - быў б паганятыя. Грамадзтва-натоўп заўсёды будзе аб'ектам эксплуатацыі іншых. Яно лёгка паддаецца прапагандзе і ашуканству, кідаецца ў крайнасьці, схільнае да жорсткасьці і агрэсіўнасьці, паддаецца сацыяльнаму "мазахізму", пошуку ворагаў, вінаватых і г.д. Натоўп — страшная самаразбуральная сіла, калі ён у руках маніпулятараў. Грамадзтва-натоўп, задзейнічанае ў агульнанацыянальным маштабе, здольнае падпісаць прыгавор самому сабе (усё залежыць ад маніпулятараў) - прадаць сваю зямлю, сімвалы, магілы, абмежаваць сваю жыцьцёвую прастору, адмовіцца ад свабоды, забараніць сваю мову ці жыцьцё чалавека (прыклады перыяду сталінізму), прагаласаваць за вар'ята, тырана, прыдурка, разбойніка, нават за каня, калі б толькі конь умеў гаварыць і шмат чаго абяцаць.

**(Працяг будзе)**

**На здымку: Зянон Пазьняк і Біл Клінтан у Курапатах. Люты 1994 г.**

*Зянон ПАЗЬНЯК*

# БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

Расея - гэта краіна прыніжанай і зьняважанай, несвабоднай асобы. Гэта, дарэчы, галоўная тэма апазіцыйнай рускай літаратуры, якая выконвала ролю палітычнай ідэалогіі. Ня дзіўна, што пісьменьнікаў там пераследвалі і забівалі.

Першасным у расейскім грамадзтве зьяўляюцца не інтарэсы чалавека, а інтарэсы дзяржавы, імперыі, імперскай улады. Прыярытэт не індывідуальнаму,а агульнаму. Адэпты імперскай ідэалогіі выхваляюцца гэтым, як адметнасьцю "расейскай цывілізацыі". Расейская грамадзтва глыбока сэрвільнае, чалавек ня мае ніякай абароны сваіх правоў перад дзяржаўным бюракратам, перад багатым, моцным. З прычыны разбуранасьці этнасу няма ніякіх звычаёвых традыцыяў, што абаранялі б асобу, (напрыклад,моцы рэлігійных дагматаў ці кроўнай помсты, ці падзелу на касты, як у Індыі і г.д.). Бюракратычнае права імперскага грамадзтва рэальна абараняе толькі ўладу.

Ратуючыся ў безвыходным становішчы, чалавек пачынае хлусіць самому сабе і хапаецца за дзяржаўную ідэалогію, за імперскія прынцыпы, за пазіцыю моцных, за перавагу сілы, выдае сваю капітуляцыю (якую можа і не ўсьведамляе) за ўласны сьветапогляд. Растаптаны, п'яны, брудны і абарваны, ён будзе крычаць за "великую Русь" і біць сябе ў грудзі - "я русский". Зьняважаны, кінуты ў ГУЛАГ, прыніжаны, зьбіты і змардаваны сталінскімі бальшавікамі, перад растрэлам вымаўляў апошнія словы: "Да здравствует Сталин". Гэта крайнія прыклады. Паміж імі сотні звычайных. Такіх, як радасьць усяго рускага грамадзтва (акрамя Герцана) з прычыны задушэньня ў 1864 г. паўстаньня ў Польшчы і Беларусі, радасьць усяго рускага грамадзтва з прычыны падпісаньня пакту Лукашэнкі - Ельцына і перспектывы захопу Беларусі, прыняцце перад выбарамі ўсімі палітычнымі сіламі Расеі імперскай ідэі і пазіцыяў махровага рускага імперыялізму. Кола замкнулася. І ніхто з былых рускіх дэмакратаў не ўсьведамляе, што ўсіх іх даўно перамог Жырыноўскі, вярнуў іх на імперскія кругі свае. Пасьляхоўны эксперымент КДБ у Расеі.

Змагаючыся за Беларусь, за правы чалавека, людзі павінны добра ведаць што за ўлада, што за краіна пагражае нашай незалежнасьці. Ня можа быць неадэкватных паводзінаў, неадпаведных уяўленьняў, марных спадзяваньняў. Класічныя прыклады - тэрор у 30-х гадах, калі людзі не разумелі дзеяньняў улады. Памятаю мяне ўразіў адзін прыклад з гісторыі расейскага генацыду над сьвятой беларускай Уніяй у XIX ст. Прыбыў расейскі карны казацкі атрад для расправы над непакорнымі уніятамі. Каб не дапусьціць карнікаў у сяло да царквы, беларускія старцы і жанчыны-уніяткі разам зь дзецьмі ляглі ўпоперак вуліцы перад капытамі коней. Яны, народжаныя ў беларускім грамадзтве, думалі, што такім чынам ня пусьцяць атрад, бо не магчыма ж паехаць па людзях. Ня пойдзе нават і конь.

Аднак карнікі нават не спыніліся і паехалі табуном па чалавечых целах. Беларусы-уніяты, якія леглі пад капыты, думалі, што на конях сядзяць такія ж людзі, як і яны. Але тыя былі іншымі. І ахвяры пра гэта ня ведалі.

Беларускае постсавецкае грамадзтва яшчэ знаходзіцца ў палоне камуністычных прапагандысцкіх стэрэатыпаў аб Расеі, аб яе ролі ў СНД, у сьвеце, аб "вечнай дружбе", аб "рускім народзе" і г.д. Ілюзіяў ня зьнішчылі нават карціны страшнага тэрору расейскай арміі супраць чачэнскага народу, хоць і апраўдалі вочы многім. Расейская прапаганда, апраўдваючы

пакаленьне ў 1918 г. аднавіла незалежную Беларусь і было зьнішчана ў 30-х гадах бальшавікамі. Мы - людзі восьмага і дзевятага пакаленьняў павінны абараніць і адрадзіць нашу Бацькаўшчыну чаго б нам гэта не каштавала. Але найперш мы павінны пазбавіцца ад ілюзіяў векавой прапаганды.

Ніякія "саюзы", ніякія "садружнасьці", ніякія "калектыўныя бясьпекі", ніякія іншыя формы ўзаемапавязанасьці Беларусі з імперскай Расеяй, нават выключна фармальныя, не прывядуць да дабра. Збліжэньне Беларусі і Расеі тут супярэчыць прыродзе рэчаў. Розныя маштабы, розныя мэты, розны зьмест. Тут павінна дзейнічаць табу: асьцярожна - імперыя зла! Не набліжайцеся, не задзірайцеся. Добрыя адносіны праз добрую мяжу!

**БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ**

Наш шлях пазначаны нашай гісторыяй. Будучы некалі наймацнейшай краінай на ўсходзе Эўропы, бароначы і трымаючы ўсходнія эўрапейскія рубяжы, стварыўшы яшчэ ў XVI стагоддзі Канстытуцыю і прававую вялікакняскую рэспубліку, распаўсюдзіўшы на пачатку XVI ст. кнігадрукаваньне ва ўсходняй Эўропе, жывучы па Магдэбургскаму праву, мы цяпер, адраджаючы нашу незалежнасьць пасьля камуністычнага катаклізму, ня можам пра гэта ня ведаць, ня памятаць, і гэтага не разумець. У беларусаў ёсьць што адбудоўваць - і веліч, і дзяржаву, і культуру.

У 1988 годзе ўтварыўся Беларускі Народны Фронт, які сінтэзаваў усе ранейшыя адраджэнскія тэндэнцыі, пазіцыі і нацыянальна-вызваленчыя арганізацыі ў выразнай дэмакратычнай адраджэнскай платформе. Грунт платформы БНФ складаюць: дзяржаўная незалежнасьць Беларусі, дэмакратыя, правы чалавека, рынкавая эканоміка, нацыянальна-культурнае адраджэньне, нейтралітэт, эканамічная і культурная інтэграцыя ў Эўропу. У 1990-1993 гг. Народнаму Фронту неверагоднымі высілкамі (перш за ўсё дзякуючы працы ў парламенце) удалося запачаткаваць і пазначыць пункцірам практычна ўсе гэтыя пазіцыі. Большасьць зь іх адзначаны ў Канстытуцыі, пры распрацоўцы якой Фронт прыняў чынны ўдзел.

Што засталося цяпер у рэальнасьці мяркуйце самі. Незалежнасьць пад пагрозай. Замест дэмакратыі аўтарытарны прафашысцкі рэжым і самадурства. Правы чалавека растаптаныя, чалавек зьняважаны. Замест рынкавай эканомікі мафіёзная карупцыя. Замест нацыянальна-культурнага адраджэньня - разбурэньне беларускай школы, друку, кнігавыдавецтва, задушэньне і ахайваньне беларускай мовы, зьдзек над нацыяй. Замест нейтралітэту - ваенны саюз з расейскай ваеншчынай, якая праводзіць генацыд у Ічкерыі. Замест інтэграцыі ў Эўропу - ізаляцыя ад яе і дзяржаўная (прэзідэнцкая) ксенафобія да Захаду.

Праграма Народнага Фронту і гістарычная задача беларускай нацыі яшчэ не ажыцьцёўлены. Таму Беларускі Народны Фронт дзейнічае, змагаецца і жыве.

Наш шлях - дзяржаўная незалежнасьць, бо толькі будучы свабоднымі, арганізаванымі і незалежнымі, мы, беларусы, зможам рэалізаваць былыя сваёй працы, свайго існаваньня і сваіх ідэй. Толькі незалежныя ў сваёй дзяржаве мы зможам адрадзіць сваю чалавечую, нацыянальную годнасьць і забясьпечыць гістарычную будучыню. Толькі будучы паўнаўладнымі гаспадарамі на сваёй свабоднай, дадзенай Богам зямлі.

Дэмакратыя нам патрэбна, каб рэалізаваць





**21 чэрвеня**

**1741г.** Нарадзіўся Жан-Эмануэль Жылібер, славуты дасьледчык-натураліст, анатам, заснавальнік гарадзенскай медычнай акадэміі і батанічнага саду.

**22 чэрвеня**

**1941г.** На Беларусь прыйшла навала другой сусьветнай вайны. Дзень памяці абаронцаў Горадні.

**23 чэрвеня**

**1792г.** Мястэчка Радунь (цяпер - Воранаўскі раён) атрымала пацьверджаньне на валоданьне гербам.

**24 чэрвеня**

**1812г.** 600-тысячнае войска Напалеона перайшло Нёман.

**25 чэрвеня**

**1882г.** Нарадзіўся Янка Купала (Іван Луцэвіч), славуты пясьняр-паэт, класік беларускай літаратуры.

**28 чэрвеня**

**1891г.** У вёсцы Гаркавічы Сакольскага павету нарадзіўся Павал Валошын, дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з стваральнікаў Беларускай сялянскай рабочай грамады.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

